# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 46 (1748) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 12 ЛІСТАПАДА 1989 г. Цана 150 зл.




У Нараўцы крыжуюцца дарогі ў Беласток і ў Гайнаўку. Фота Я. Целушэцкага

Восеньская Нараўка. Хлюпота такая, пранізлівы холад, гразь.

На прычэпах стаяць панурыя бугайкі, валкі і цялушкі. Мокрая, часам пазбіваная шэрсць на шырокіх жыватах, на адкормленых мызах. Цяпер яны прыціхлі, амаль не варушацца — ды і дзе павернешся ў нізкіх і вузкіх клетках!

Толькі гаспадары гамоняць, нервова ходзяць у бліскучых ад дажджу балонскіх куртках, топчуць гразь гумовымі ботамі. Чарга.

Падобныя чэргі стаяць у горадзе, ад поўначы, за мясам, а тут мяса стаіць жывое і чакае, калі яго закласіфікуюць, завядуць на вагу і пашлюць на смерць, каб накарміць галодных мяшчан. А пан Бароўскі выпіша квіток, за які гаспадар дастане вялікія грошы. Пачуўшы такую суму паўгода назад, хлебароб падумаў бы: „Ого! Аплацілася песціць майго бугая"!

— Не хочуць браць ніжэй вагі 400 кг! Паглядзі, ужо з вагі назад вярнулі бычка, якому не хапала 14 кілаграмаў.

— Трэ было зранку лепш накарміць, то, каб чаго не згубіў па дарозе, то прынялі б, — засмяяўся мужчына ў берэце.

— У які клас пайшла ваша ялоўка?

— У першы. Як гэты класіфікатар глядзіць, не разумею, памойму павінен даць клас „Э".

— Як ён ацэньвае?

— А ідзе, глядзіць, мацае і піша на штуцы нумар.

„Шчаслўцы" ідуць у будынак, дзе стаіць вага. На вазе клетка; вядома, жывёла маладая, мускулістая, рагатая, і няспешна ёй на смерць. Бугай з кальцом у носе напірае на бар'ер, кідае шырокім ілбом, у чырвоных вачах — нянавісць і адчай. Напэўна „пойдзе" — адразу відаць, што важыць каля паўтоны. А не — то заганяй яго назад на прычэпку і вязі дахаты, запладіўшы за транспарт і „днёўку" трактарысту... Вось ялоўка амаль не разбіла клеткі на возе. Адсуньцеся, людзі, забіць можа!

— Прапусцеце, людзі, свінчо прывезлі!

Урэшце паяўляецца свінка, адзіная сёння. Усе да яе як да




паненкі: просім пані на вагу! Добрая свінка, важыць як карова, 338 кілаграмаў! Бач, мешчанін хоча толькі яе кумпякі есці, не хоча браць таннейшую і здаровшую ялавічыну.

— Гаспадар вязе цяпер жывіну, бо чым яе будзе карміць? Цяпер не адкорміш добра, — гаворыць жанчына з Семяноўкі. — У мінулы аўторак прынялі толькі 15 штук, бралі і па 300 кг.

Пані Станіслава Харкевіч, намеснік старшыні ГСу ў Нараўцы, папрасіла тады класіфікатара пазваніць у Бельск, у Акруговае прадпрыемства мяснай прамысловасці, на зборную базу жывёлы, каб дазволілі прыняць больш скаціны на 17 штук. Людзі прывезлі каля 70 штук.

— Вязе чалавек столькі дарогі, траціць дзень і грошы на транспарт і каб гэта надарма? — непакоіцца пані Стася, якую я спаткала ў халодным пакойчыку з нагрэтай да беласці печчу, праз які праходзіла ўся „папярковая" работа.

— Я ў Нараўчанскай гміне працую ўжо столькі год, што кожны гаспадар для мяне як сваяк. Удалося тады прыняць трошкі больш. На другі дзень людзі павезлі былі сваё быдла ў Шымкі, і там прынялі ўсё — гэта было мяса для Беластока.

А сёння?

— Запатрабаванне складаюць на базу ў Бельску прадпрыемствы мясной перапрацоўкі, — кажа класіфікатар. — Яны адразу забіраюць быдла з базы. Што мы зробім, калі горад не хоча адной ялавічыны? Будзем прымаць сёння столькі часу, колькі трэба, напэўна, большменш да трэцяй гадзіны, і прымем столькі, колькі ў нас захоча ўзяць горад. Так што — выбіраем. Найлепшая парода — гэта „шарлесы", вось гэтыя сівавастыя, „мяшанцы".

— І кожны тыдзень іншыя рашэнні? Калі б гаспадар ведаў, не вёз бы дабытку. Што яны будуць рабіць з гэтым быдлам? Столькі гаворыцца аб недахопе мяса ў крамах! Бойні працуюць цяпер на адну змену, жывёла часам чакае там некалькі сутак сваёй смерці, а паміpae з голаду. Вы тут стараецеся зрабіць, што можаце.

— Я думаю, што так будзе толькі ў гэтым месяцы, як заў-

(Працяг на стар. 4)

## Пра нашых пісалі...

### НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ АЎТАНОМІІ?

Апошняя тэлеперадача, прысвечаная беларусам у Польшчы — дваццаць чацвертага кастрычніка па першай праграме — адбылася з каментарам, у якім быў аналіз польска-беларускіх адносінаў. Убачылі ў нас палітычнага партнера, а не як дагэтуль — толькі пявоноў ды танцораў.

Гэтак жа паважліва аднёсся да беларуска-польскіх справаў кракаўскі каталіцкі штомесячнік „Знак". У сваім шостым нумары за гэты год — нядаўна з'явіўся ў продажы — больш чым палову месца аддаў аўтарам, якія займаюцца гісторыяй ды сучасным станам суджыцця паміж беларусамі і палякамі, Польшчай і Беларуссю. Часопіс адкрываецца публікацыяй артыкулаў Сакрата Яновіча і Юркі Туронка, г.зн. разважаннямі пра тысячагадовыя сувязі паміж Белай Руссю і Польшчай, ды пра польска-беларускія суадносіны ў апошнюю вялікую вайну. Чытанне іх — даволі прыкры занятак, бо святлейшых эпізодаў у гэтых узаемных сувязях, на жаль, не зашмат. Палякі гэта разумеюць цяпер і намагаюцца шчырымі публікацыямі стварыць настрой узаемадаверу. Слушны гэта спосаб: кажучы ўсім толькі праўду, можна дабіцца нечага сур'ёзнага, трывалага ў будучым.

Дваццаць восьмага верасня з'явіліся на вуліцах Варшавы абвесткі пра беларускі вечар у вядомым культурным цэнтры Stara Prochownia. У рамках паказу культур нацыянальных меншасцяў Польшчы. Выступіў — бельскі хор „Васілёчкі": чыталі творы і адказвалі на пытанні публікі Алесь Барскі і Сакрат Яновіч. Добрай атмасферы паспрыяла яшчэ і ўводнае слова Войцеха Сямёна, выдатнага актора і дзеяча. — Мой культуры ў яе прыцягальнасці, — гаварыў ён. — Польскую культуру ў значнай меры стварылі непалякі, што добра сведчыць пра яе атракцыйнасць. Падобныя словы можна сказаць і пра беларушчыну...

„Gazeta Współczesna" ад 19 кастрычніка зусім здзівіла сваіх чытачоў, змясціўшы інтэрв'ю салідарніцкага сенатара Анджэя Каліцінскага, які — нечуваным раней катэгарычным тонам — заявіў:

„Пражываюць тут (на Беласточчыне — с. я.) і беларусы.

(Працяг на стар. 5)




**Паважаныя супрацоўнікі „Нівы“!**

Буду вам удзячна, калі вы дапаможаце мне адшукаць сваякоў, якія пасля вайны пераехалі жыць у Польшчу.

Шукаю маю бабулю (Рукан Марыю Якаўлеўну, якая пражывала ў вёсцы Голі, Слонімскі раён, Гродзенскай вобласці), сястру **Мушынскую Алену Якаўлеўну,** якая павінна пражываць у Шчэціне. Бабуля вяла перапіску, а потым па невядомай прычыне ў 1963 годзе перапіска спынілася. Бабуля памерла, а мне хочацца пабачыць сваіх траюрадных сёстраў і братоў. Ды гэта просьба не толькі мая, але ж і ўсіх астатніх сваякоў. Можа Алены Якаўлеўны Мушынскай няма ў жывых, дык ёсць жа дзеці. Далучаю здымак сям'і Мушынскіх з 1961 года.

І яшчэ ў горадзе Ныса (ваяводства Аполе) павінен пражываць брат бабулі **Пакінь-Саха Аляксандр Іванавіч.** Можа гэтыя два недакладныя адрасы дапамогуць знайсці сваякоў.



**Я, Сыч** Ніна Лявонцеўна, унучка Рукан Марыі Якаўлеўны, працую і жыву ў Шчучыне. Бацька мой, Рукан Леанід Аляксандравіч расказваў мне, як муж Алены Якаўлеўны, **Людвіг Мушынскі** заўсёды добра адносіўся да іх. Жылі бедна, дык яны дапамагалі вопраткай і любілі бацьку. Раней яны жылі ў вёсцы Дзярэчын, Зэльвенскага раёна, да выезду ў Польшчу.

**Ніна Лявонцеўна Сыч,
БССР, Гродзенская вобл.
г. Шчучын, вул. Лясная
д. 23, кв. 1.**

**Алёна Шарэпа-Лапіцкая. Мінск.** Усе здымкі магілы Максіма Багдановіча дайшлі да нас і захоўваюцца ў рэдакцыйным архіве. Здымкамі зацікавіўся рэдактар „Беларускага календара“ на 1991 год і, мабыць, іх выкарыстае.

**Уладзімір Пучынскі, Мінск.** Інтэрв'ю друкаваць не будзем. Па форме і зместу нашаму тыднёвіку не падыходзіць.

**Алесь Сімакоў, Гомель.** Зварот Беларуска-індзейскага таварыства да суайчыннікаў у Амерыцы друкаваць не будзем, а гэта таму, што ў Амерыку трапляе адносна невялікая колькасць нашага тыднёвіка. Раім наладзіць кантакт з беларускімі часопісамі ў ЗША і Канадзе. Можа яны пацікавяцца вашай дзейнасцю.




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

Пасля другога раздзела Польшчы цар Павел I з часткі Мінскага ваяводства, якую атрымала Расія, і з паўднёвай часткі Брэстчыны стварыў Мінскую губерню.

У 1795 годзе, пасля апошняга раздзелу Польшчы былі ўтвораны Віленская і Слонімская губерні. У 1796 годзе абедзве гэтыя губерні былі перайменаваны ў Літоўскую губерню, якую ў хуткім часе Аляксандр I падзяліў на Віленскую і Гродзенскую губерні і аднавіў ліквідаванае Паўлам I Магілёўскае намесніцтва ў форме Магілёўскай губерні. Полацкая губерня была перайменавана ў Віцебскую. Губерні Магілёўскую, Віцебскую, Мінскую называлі беларускімі.

У перыяд паўстання 1831 года кіраўніком паўстання на Міншчыне быў Радзішэўскі, а на Піншчыне Тытус Пуслоўскі. Паўстанне 1863 года таксама выклікала рэха на крэсах. Камандуючым паўстанцаў у Кобрынскім павеце быў Траўгут.

Пасля ўпадку студзеньскага паўстання выступілі на Беларусі бязлітасныя, рашучыя рэпрэсіі, бо царскі ўрад не прызнаваў як беларускай народнасці, так і уніяцкай рэлігіі.

**У** перыяд сусветнай вайны беларускія землі былі месцам шматлікіх бітваў. Адыходзячы перад напорам немцаў у 1915 годзе, рускія страшэнным чынам нішчылі край, палячы гарады, асады, вёскі, і эвакуіравалі насельніцтва. Немцы паступова дайшлі аж да Оршы, дзе асталіся аж да 1918 года. На пачатку 1919 года пакінулі Беларусь. Большую частку пакінутай немцамі тэрыторыі занялі бальшавікі.

Пасля заканчэння сусветнай вайны на беларускіх землях са зменнымі лёсамі праходзіла польска-бальшавіцкая вайна. У яе выніку беларускія землі пераходзілі з рук у рукі. У 1920 годзе амаль усю Беларусь занялі бальшавікі, а рэшту літоўцы. У выніку пераможнай для Польшчы вайны, Рыжскага міру і акцыі генерала Жалігоўскага, закончанай далучэннем Віленшчыны да Польшчы, частка Беларусі адыйшла да Польшчы, а частка да Савецкай Расіі.

**Раздзел II**

**Польскія і рускія ўплывы, пад якімі развівалася Беларусь.**

Як бачым з фактаў, Беларусь на працягу свайго развіцця ўваходзіла ў склад Літвы, Польшчы і Расіі. Культура гэтых народаў, асабліва польская і руская, адыгралі выдатную ролю ў гісторыі развіцця Беларусі.

Ад найдаўнейшых часоў на Вялікае княства Літоўскае, а тым самым і на Беларусь, вялікі ўплыў меў польскі элемент.

Плямёны літоўцаў, прусаў і ятвягаў захоплівалі польскіх палонных, якія былі піянерамі польскай культуры, асабліва сельскагаспадарчай. Спрыялі яны паланізацыі тэрыторыі на ўсход ад межаў польскай дзяржавы.

Па меры аб'яднаўвання Літвы і Польшчы, польская культура ўсё шырэй пранікала на ўсход. Ішлі туды перш за ўсё польскія асаднікі, рамеснікі, бортнікі, рыбакі і г.д...

Пасля Люблінскай уніі польскі ўплыў на ўсход усё болей пашыраўся шляхам:

1) наплыву палякаў,

2) паланізацыі мясцовай стыхіі.

Гарады, сядзібы магнатаў былі тымі цэнтрамі, якія праменявалі ва ўсе бакі, пашыраючы польскія звычаі, культуру і мову.

Наколькі пашыралася сфера ўплыву Польшчы, настолькі пашыралася і беларуская культура. Гэтыя два працэсы развіваліся адначасова. Польская культура ўплывала перш за ўсё на мяшчанскія і дваранскія праслойкі, а ніжэйшыя грамадскія слаі літоўскага грамадства пападалі пад уплыў беларускай культуры. Мяжа паміж літоўскімі і беларускімі масамі перасоўвалася пастаянна на захад і поўнач так, што памяншваўся элемент літоўскі, а павялічваўся — беларускі. Змяняліся мова і культура — народ з літоўскага станавіўся беларускім.

Беларуская мова хутка станавілася ўрадавай мовай Літвы (XIV ст.). Пачаткова размаўлялі па-беларуску баяры і шляхта. Пашырэнне беларушчыны выступае і сёння, хаця разбуджаная літоўская свядомасць значна яго прытармазіла.

(Працяг будзе)

# ПРАЕКТ ПРАГРАМЫ БГК „ГРАМАДА“

(Працяг са стар. 2)

паслядоўна імкнуцца абмежаваць беларускую культурную прысутнасць на Беласточчыне аж да цалкавітага яе знікнення.

Не можа не непакоіць створаная апошнім часам канцэпцыя культурнага развіцця Беласточчыны да 2000 года, якая ў асноўных сваіх накірунках мае правесці культурную уніфікацыю паступовым растварэннем беларускай культуры ў агульнапольскай стыхіі. Здзяйсненне гэтай канцэпцыі дало б у выніку не толькі знікненне адзінай і непаўторнай ва ўсёй краіне сумежнасці дзвюх нацыянальных культураў, але таксама і адмоўныя грамадскія з'явы:

— знікненне з грамадскага жыцця традыцыйных маральных і духоўных каштоўнасцяў, якія нясе з сабою самабытная беларуская культура;

— выключэнне на працяглы час культуратварыльнага патэнцыялу значнай часткі насельніцтва Беласточчыны;

— агульнае зніжэнне культурнага ўзроўню і рост напружання ў палітычна-грамадскім жыцці ваяводства.

Беларускі грамадскі камітэт, намагаючыся захаваць самабытнасць беларускай культуры на Беласточчыне і спрыяць яе развіццю, не намераны ажыццяўляць гэта, выступаючы супроць польскай культуры. Галоўнай мэтаю культурнай праграмы Камітэта з'яўляецца усталяванне справядлівай раўнавагі і нармальнасці ў культурных памкненнях і суадносінах беларусаў і палякаў у нашым рэгіёне.

БГК „Грамада“ ў сваіх памкненнях дзеля захавання культурнай спадчыны беларусаў Беласточчыны і далейшага развіцця іх культуры будзе выступаць за:

1. Мэтанакіраваную палітыку ваяводскіх і цэнтральных уладаў у галіне культурнага развіцця, у якім беларуская культура заняла б належнае ёй месца.

2. Арганізаванне матэрыяльнай базы і фінансавых сродкаў дзеля развіцця беларускай культуры.

3. Стварэнне і асваенне сучасных гарадскіх формаў беларускай культуры, напрыклад, прафесіянальнай беларускай эстрады і беларускай тэатральнай сцэны.

4. Паўнапраўнае развіццё беларускага культурнага руху.

5. Супрацоўніцтва ў галіне культуры з Беларускай ССР.

Ніякі народ не можа развівацца без дзяржаўнасці мовы і без нацыянальнага школьніцтва. У любой дзяржаве не можа быць гутаркі пра дэмакратыю і талерантнасць, калі мова нават найменшай этнічнай групы ці народнасці не мае поўных правоў і гарантый яе развіцця ды пашанавання як з боку дзяржаўных устаноў, так з боку асноўнага дзяржаўнага грамадства. Кожная дыскрымінацыя нацыянальнай меншасці пачынаецца ад дыскрымінацыі яе мовы, што выражаецца стварэннем вакол яе псіхічнага тэрору. Сёння, калі цывілізаваныя народы так многа зрабілі ў змаганні за правы чалавека, беларуская нацыянальная меншасць не мае прававых гарантый на яе першае і неаспрэчнае права — права на свабоднае карыстанне сваёй мовай у публічным жыцці.

Галоўнай мэтай БГК у галіне школьніцтва будзе змаганне за ўвядзенне ў праграму і практыку школьнага жыцця інфармацыі аб нацыянальных меншасцях (беларусы на Беласточчыне), з вылучэннем права на

# НАСТАЎНІКАМ — ДЗЯКУЙ!

Асвета і культура, быццам сіямскія сёстры, нераздзельна звязаны з жыццём кожнага чалавека. Запалоньваюць яны „людскую сыравіну“, пачынаючы ад нараджэння, і дзень за днём, год за годам у бесперапынным акце тварэння імкнуцца стварыць з яе Чалавека.

У цэлым працэсе кшталтавання чалавека для кожнага з нас найважнейшымі былі настаўнікі. Гэта ж ад іх пачыналіся нашы першыя крокі ў магічны свет асветы і культуры. Аднак не заўсёды мы ўмеем ацаніць веліч іх штодзённай працы, а яшчэ горш бывае, калі трэба нашую пашану выказаць у форме ўзнагарод. Прыклад — настаўнікі беларускай мовы на Беласточчыне. З увагі на спецыфіку іх працы яны не могуць аставацца выключна настаўнікамі. Яны маральна абавязаны быць і грамадскімі, і культурнымі дзеячамі. Цяжка ўявіць, што беларускае культурнае жыццё на Беласточчыне магло б развівацца без іхняй актыўнасці і працы.

Разумеючы гэта, БГКТ звярнулася ў Кураторыю з просьбай прызнаць узнагароды хаця б для пяці настаўнікаў, дзякуючы працы і таленавітасці якіх у конкурсах для моладзі атрымаліся найлепшыя вынікі. Само БГКТ на ўсе конкурсы ў гэтым годзе мела ў сваім бюджэце ўсяго 100.000 злотых, прычым узнагароды для настаўнікаў не прадбачваліся. Во як здорава цэніцца праца настаўнікаў і, натуральна, мастацтва нашых дзетак! Кураторыя, з-за фінансавых цяжкасцей, прызнала адну ўзнагароду — настаўніцы беларускай мовы ў Орлі Анне Шыманскай.

БГКТ, плануючы адкрыццё культурна-асветніцкага сезону, пачало ліхарадачныя пошукі сродкаў, якія аказаліся безвыніковымі.

Ратункам, здавалася, маглі быць дыпломы БГКТ. Хоць выпісаныя, так і асталіся ляжаць няўручанымі. Сорамна зрабілася скромненькімі дыпломчыкамі сквітаваць неацэненую ахвярную працу, выходзячую далёка па-за рамкі настаўніцкага абавязку.

Толькі дзякуючы „Ніве“ БГКТ мае нагоду звярнуцца да ўсіх настаўнікаў і дзеячоў культуры са шчырымі словамі падзякі за штодзённы творчы і ахвярны труд у падрыхтоўцы конкурсаў, пры навучанні беларускай мовы. Асабліва дзякуем: Анне Шыманскай з Орлі, Ларысе Бурыла з Бельска-Падляшскага, Веры Флёрчык з Кленік, Ніне Абрамюк з Ласінкі, Ірыне Ефімюк з Храбалоў, Яўгеніі Такаюк з Кляшчэляў, Васілю Цялушэцкаму з Ляўкова, Валянціне Дудзе з Дашоў, Тамары Русачык з Бельска-Падляшскага, Валянціне Андрасюк з Дашоў, Галіне Наумчук з Бельска-Падляшскага, Валянціне Дзмітрук з Гайнаўкі, Сяргею Лукашуку з Бельска-Падляшскага, Ніне Адамюк з Чыжоў, Юрку Жменько з Пашкоўшчыны, Міраславе Маркевіч з Бельска-Падляшскага, Людміле Себясевіч з Малінік, Ірыне Лукашук з Гайнаўкі, Вользе Гарустовіч з Дубін, Галене Тапалянскай з Трасцянкі, Анне і Міраславе Панфілюк з Дубічаў-Царкоўных, Янку Морданю з БГКТ.

Вынікі іх працы і майстэрства дзетак дзеячы БГКТ і прадстаўнікі ўлад мелі нагоду пабачыць на сцэне. Было гэта цудоўнае выкананне песень, дэкламацый і сцэнічных замалёвак! Ёсць чым ганарыцца і за што дзякаваць!

На жаль, менш поваду да гонару маем мы, працаўнікі БГКТ, з увагі на арганізацыйныя недахопы. Не можа нас апраўдваць кампраметуючая беднасць Таварыства. Праўдападобна, не хапіла еднасці ў арганізацыйных намаганнях.

**Віктар Стахвюк**

Фота Я. Чэрнякевіч



*Цяжка ўявіць беларускае культурнае жыццё без настаўнікаў. На здымку настаўніцы з бельскай школы № 3 (злева направа): Міраслава Маркевіч, Ніна Сычэўская, Ларыса Бурыла, Стэфанія Красуцкая і Вера Міхноўская.*

# ВОСЕННЮ З'ЯЗДЖАЮЦЦА Ў БЕЛАВЕЖУ ФІЛЬМОЎЦЫ

Жартуючы, можна сказаць, што сёлетняй восенню ў Белавежы было больш фільмоўцаў, чым турыстаў. На працягу многіх дзён дакументальныя ці асветныя фільмы рэалізавалі ў пушчы адразу аж тры здымачныя групы.

Найдаўжэй у белавежскіх нетрах „сядзеў“ Ян Валенцік з Польскага тэлебачання. З кароткімі або доўгімі перапынкамі яго бачылі тут цэлы мінаючы год. Валенцік, супольна з жонкай Бажэнай, рэалізуе фільм „Зялёныя лёгкія Польшчы“, у якім расказа аб беластоцкай канцэпцыі аховы прыроды, якая так і называецца. Пры нагодзе выконваюцца здымкі для тэлевізійных перадач. Наогул Валенцікі ў апошнія гады часта заглядалі ў нашую жамчужыну.

У канцы верасня г.г. у белавежскім зубрагадавальніку пачала рэалізаваць дакументальны фільм італьянска-польская група. Рэжысёр Мауро Рамэрыо хоча паказаць Белавежу праз зубры і людзей, якія пры іх працуюць. Найчасцей у кадрах фільма будзе паяўляцца шматгадовы зубравод Сяргей Валкавыцкі. Ён вельмі натуральна паводзіць сябе перад кінакамерай. Здымкі выконваў Лех Скуза. „Польскія зубры“, бо гэтак называецца фільм М. Рамэрыо, пакажа 5 канал італьянскага тэлебачання. Яго змогуць паглядзець і белавежцы, бо адну копію рэалізатар абяцаў перадаць Белавежскаму нацыянальнаму парку. Фільм рэалізавалі супольна кінастудыя ў Варшаве і тэлевізійная кінастудыя „Енатан“ у Мілане.

Таксама ў канцы верасня ў Белавежы працавала здымачная група Кінастудыі асветных фільмаў у Лодзі. Рэжысёр Раман Дэмбскі і аператар Марэк Яворскі выканалі ў запаведніку здымкі да фільма „Нацыянальныя паркі, якія не знаходзяцца пад пагрозай“. Заказчык фільма, Міністэрства аховы асяроддзя і натуральных рэсурсаў, выбраў для гэтай мэты два нацыянальныя паркі ў Польшчы — Славінскі (на Памор'і) і Белавежскі, у якіх, на яго думку, экалагічная сітуацыя даволі добрая. Што ж, відаць, у Варшаве хочуць крыху падмацаваць сябе ў аптымізме. Вядома ж, што Белавежскаму нацыянальнаму парку таксама шмат што пагражае і супакойванне грамадства можа аказацца дзеяннем на шкоду белавежскаму матачніку. На шчасце, рэалізатары ўсведамляюць гэта! Абяцалі не затайваць нічога.

**Пётр Байко**

ўласную нацыянальную свядомасць, на развіццё самабытных культурных памкненняў, на паглыбленне гістарычнай адукацыі, на свабоднае рэлігійнае жыццё і на нацыянальную годнасць.

БГК „Грамада“ будзе рупіцца пра нармальнасць прысутнасці беларускіх дзяцей у кожнай школе, дзіцячым садзе, апякунчай установе. Пра талерантнасць як з боку настаўнікаў-апекуноў, так і з боку дзяцей. БГК будзе змагацца за дзяржаўныя прававыя гарантыі ў гэтай галіне. БГК ставіць сабе мэту беларусізацыі школьнага жыцця ў этнічна беларускім асяроддзі. Беларускамоўная адміністрацыя школы і настаўнікі павінны звяртацца да дзяцей на беларускай мове. Камітэт таксама мае на ўвазе ўвядзенне навучання гісторыі беларусаў Беласточчыны з элементамі гісторыі Беларусі ва ўсіх школах у рэгіёне. У этнічна беларускім асяроддзі яе навучанне мае адбывацца на беларускай мове. Прадмет беларускай мовы павінен быць уведзены як абавязковы ва ўсе школы ў тых асяроддзях, дзе беларускае насельніцтва складае звыш паловы ўсіх жыхароў. БГК выступае за камплементарнае развіццё беларускага школьніцтва ў рэгіёне, якое ахоплівала б не толькі пачатковы і сярэдні ўзроўні, але таксама і вышэйшыя школы. У бліжэйшым часе павінны ўзнікнуць у Беластоку прадшколлі, пачатковыя і сярэднія школы — у тым ліку і прафесіянальныя вучылішчы — з беларускай мовай навучання.

БГК „Грамада“ будзе імкнуцца да стварэння ў Беластоку спецыяльнай навукова-даследчай установы — Беларускага інстытута культуры і этнаграфіі, а пры тутэйшым філіяле Варшаўскага універсітэта — беларускай філалогіі.

Беларускі грамадскі камітэт „Грамада“ лічыць, што вышэй прадстаўленыя накірункі яго гаспадарчай, культурнай і асветнай праграмы ў адносінах да беларускай нацыянальнай меншасці будуць падтрыманы польскім насельніцтвам Беласточчыны. Бо лёс беларусаў і палякаў у нашым рэгіёне — гэта той самы лёс. Беларусы падтрымліваюць дэмакратычныя рэформы ў дзяржаве, у меру сваіх магчымасцяў імкнуцца да таго, каб суіснаванне абодвух грамадстваў у рэгіёне вызначалі нармальнасць, узаемная пашана і павага.

**Беларускі грамадскі камітэт „Грамада“**

— * —

**Прэзідыум ГП БГКТ, пазнаёміўшыся з дэкларацыяй і праграмай Беларускага грамадскага камітэта „Грамада“, лічыць сваім абавязкам зрабіць наступныя заўвагі:**

**— БГКТ з сімпатыяй вітае гэтую, як і кожную іншую, спробу дзейнасці ў карысць адраджэння беларускай культуры, мовы і свядомасці,**

**— прадстаўленая дэкларацыя і праграма ў сур'ёзнай ступені абапіраецца на ідэях, пастулатах, прапановах і практыцы БГКТ,**

**— лічым, што ў дэкларацыі і праграме БГК „Грамада“ не хапае неабходных у такой сітуацыі фармуліровак, якія адносіліся б да беларускіх палітычных традыцый, да сучаснай Польшчы, да БССР, да эміграцыі і да БГКТ,**

**— неабходна шырэй уключыць у праграму прапанову супрацоўніцтва з так істотным фактарам нашай рэчаіснасці, як Праваслаўная Царква ў Польшчы.**

**У сувязі з вышэй сказаным, прадстаўленую дэкларацыю і праграму трактуем як праект, які павінен быць пададзены пад шырокую грамадскую дыскусію, і на яе базе сфармулявана павінна быць канчатковая праграма. Дыскусіі павінна быць пададзена таксама справа назвы новай арганізацыі.**

**Падкрэсліваем, што апрабуем форму пошукаў выхаду з той цяжкай сітуацыі, у якой апынуліся беларусы ў Польшчы.**

**Прэзідыум ГП БГКТ**
**5.10.1989 г.**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Авяр'ян Дзеружынскі

### ТОРТ ДЛЯ МАТУЛІ

Таня з Оляй
Торт спяклі
Для сваёй матулі.
Пах салодкі,
Смачны пах
І суседзі чулі.
— Вось каб нам
Пакаштаваць
Торта хоць бы крышку. —
Таня
Вочы касавурыць
На Олю-малышку.

Узялі яны па крошцы,
Па другой,
Па трэйцяй...
Калі торт
Да рэшты з'елі —
Ніхто не прыкмеціў.

Як прыйшла
Матуля з працы,
Дочкі ёй
Сказалі:
— Торт спяклі табе
Салодкі —
Самі ж
Скаштавалі.
— Скаштавалі?
Ну і добра,
Не бядуйце,
Дочкі,
Я спяку вам
Новы торт
З фруктамі,
З мядочкам.

### ПЕКАРЫ

Раз, два, тры,
Чатыры, пяць,
Хлеб мы
Будзем выпякаць.
Ты, Алесь,
Хутчэй сюды
Прыцягні
Вядро вады.
Прынясу я ўміг
Пяску,
Што жаўцее
Ўскрай ляску,
І залью яго
Вадой,
Цеста вымесім
З табой.
Напячом мы
Хлеба
Столькі,
Колькі трэба.

### ЖАРТ

У завулках
Па начах
Ходзіць Страх,
Страшэнны Страх.
Чалавека
Ён баіцца —
І таму яму
Не спіцца.
А як прыйдзе
Ясны дзень,
Страх знікае,
Нібы цень.
І са страху
Гэты Страх
Сам хаваецца
Ў лясах.



Фота Л. Пільскага.

Валянцін Рабкевіч

### ЕДЗЕ ВОСЕНЬ

Змоўкла наваколле,
Лес адгаманіў,
Едзе восень полем
На рабым кані.

Лісце сыпле ў ногі —
Высцілае шлях.
Гушкае дарога.
Мулкая зямля.

А за сінім борам —
Я разглядзеў сам —
Сядзе ў санкі скора
Белая зіма.




Хлопцы з Пасынак. Фота А. Гаўрылюка.

Ірына Салавей

### ХУСТАЧКА

Агнешка была добрай вучаніцай. Усе вучні чацвертага класа адносіліся да яе з пашанай. Але аднойчы здарылася і ёй не прынесці хатняга задання.

На практычных занятках настаўніца задала ўсім дзяўчаткам абрабіць хустачку. Узор можна было выбраць па свайму густу. Усе дзяўчаткі рабілі гэта вельмі спрытна і ўмела. Настаўніца радавалася, што ў яе такія здольныя вучаніцы.

Дзяўчаткі салідна працавалі на трох чарговых уроках, а пасля настаўніца сказала:

— Дома давядзіце свае хустачкі да прыгожага выгляду — памыйце, папрасуйце. На наступным уроку я буду правяраць і ставіць ацэнкі.

Агнешка памыла сваю хустачку, папрасавала яе і схавала ў сваю шуфлядку. Калі ж надышоў дзень, што яе трэба было несці ў школу, Агнешка адчыніла шуфлядку. Але хустачкі не было.

— Мама! — крыкнула яна не сваім голасам. — Ці ты не брала маю хустачку?

— Гэта я ўзяў! — сказаў малодшы брат Агнешкі. — Хустачка мне спадабалася. Ты сабе другую зробіш!

— Аддай, — папрасіла Агнешка. — Мне на ўрок яе задалі.

— Але яе няма, — прызнаўся Адам. — Я яе прайграў з Петрусём у фанты.

— Як ты мог, — узлавалася маці, — узяць без дазволу! Цяпер Агнешка двойку атрымае.

Агнешка плакала. Вельмі шкадаваў свайго ўчынку і Адась. Але для яго гэта была толькі навука на будучыню.

У школе Агнешка сядзела вельмі сумная. Са страхам чакала практычных заняткаў. Але час урока ўсё ж надышоў.

Настаўніца пачала правяраць работы. Усе дзяўчаткі атрымлівалі пяцёркі і чацвёркі. Дайшла чарга і да Агнешкі.

— Я не прынесла хустачку, — сумна сказала яна.

— Чаму? — здзівілася настаўніца. Яна памятала прыгожую Агнешчыну хустачку.

Агнешка расказала настаўніцы шчыра аб тым, што здарылася дома. Настаўніца добра ведала, што Агнешка хлусіць не будзе.

— Ну што ж, — сказала настаўніца. — Паставіць ацэнкі я табе не магу. Але і двойкі не пастаўлю: усе тры ўрокі ты старанна працавала. Прыйдзецца табе зрабіць новую хустачку і я ацаню яе па заслугах.

Агнешка была вельмі ўдзячна настаўніцы. Зрабіла яна другую хустачку, яшчэ прыгажэйшую. А малодшага брата прыйдзецца яшчэ выхоўваць.

